# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 44 (923) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 4 ЛІСТАПАДА 1973 г. ЦАНА 60 гр.




*Тканіна з «беларускім» узорам у руках фаставянкі.*

## НАВІНКІ БАВАЎНЯНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

Баваўняная прамысловасць у апошні час значна дастасавалася да патрэб рынку. У гэтым годзе выпрадукуе 39 мільёнаў метраў новых тавараў, якіх дагэтуль не прадукавала. У будучым годзе прадбачваецца падвоіць гэтую прадукцыю.

Значную ролю ў прадукцыі навінак адыгрывае наш фастаўскі бавоўнакамбінат. Праграма навінак фастаўскага камбіната — гэта 4 мільёны 100 тысяч метраў тканін або 21 зусім новы асартымент у бягучай пяцігодцы. Ужо на рынку паказалася 5 навінак, іншыя ўбачым хутка. Асабліва павінен зацікавіць жанчын „сподніум дапасаваны". Гэта гатовая каляровая тканіна з надрукаванымі ўзорамі для выкрайкі. Інакш гаворачы, калі дома ёсць швейная машына, можна купіць, выкраіць і сшыць самому. Прадстаўнікі баваўнянай прамысловасці паведамілі журналістам, што ў хуткім часе паявяцца ў крамах і іншыя матэрыялы, гатовыя да выкрайкі і шыцця.

Паколькі сустрэча з прадстаўнікамі баваўнянай прамысловасці адбывалася на камбінаце „Фасты", некалькі слоў аб гэтым найвялікшым заводзе Беласточчыны.

У „Фастах" працуе больш 6 тысяч рабочых і служачых. У год выпускаецца тут 76 мільёнаў метраў тканін, а вартасць прадукцыі ацэньваецца на 3,5 мільярда зл. Амаль 80 працэнтаў прадукцыі застаецца на забеспячэнне ўнутранага рынку, астатнія 20 працэнтаў экспартуюць у 30 краін усіх кантынентаў. Фастаўскія тканіны купляюць, між іншым, такія краіны, як СССР, ЗША, ФРГ, Францыя, Галандыя, Данія, Канада, Вялікабрытанія, Аўстралія, а нават Непал.

На працягу 20 год існавання фастаўскі баваўнакамбінат выпрацаваў свой уласны, непаўторны стыль узораў. Кры-

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Гайнаўшчына, год 1990 ● Інжынер з душой паэта (сустрэчы з землякамі) ● Краязнаўчы слоўнік ● Па здароўе ў Нараў ● Ліст з Задрыпанкі ● Разведка на пунктах скупкі ● Тата з мамай дом будуюць — дзеці сабе хатку ● Адкуль узяць сведка? ● Карэспандэнцыя з Мінска ● Весткі з Крушынян, Грэдалёў, Паўночнага Вострава, Дубіч Царкоўных і інш. ● Песня „Koleiny".**

## ПЕСЕННЫЯ І ТЭАТРАЛЬНЫЯ КОНКУРСЫ 1974 ГОДА



Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ на сваім пасяджэнні ад 28 верасня г.г. зацвердзіў правілы (рэгуляміны) агляду „Беларуская песня — 74" і беларускіх самадзейных тэатральных калектываў.

Арганізатарамі абодвух аглядаў з'яўляецца Галоўнае праўленне БГКТ, „Ніва" і суарганізатары: аддзел культуры ВРН, ваяводскае праўленне Саюза сацыялістычнай сялянскай моладзі (ЗСМВ), ваяводская рада прафесіянальных саюзаў, ваяводскі і павятовыя дамы культуры, прадпрыемства „Прэса — Кніга — Рух", ваяводскія праўленні сельскагаспадарчых гурткоў, гмінных спулдзельняў і дабраахвотных пажарных каманд, а таксама ваяводская спажывецкая спулдзельня „Сполэм".

### „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 74"

У гэтым годзе конкурс будзе праходзіць пад лозунгам „З музыкай і песняй насустрач 30-годдзю Народнай Польшчы".

У аглядзе могуць прымаць удзел самадзейнікі: салісты, дуэты і калектывы ад трох да васьмі асоб. Па-за конкурсам у паасобных элімінацыях і ў фінальным аглядзе могуць прымаць удзел прафесіянальныя вакалісты, спевакі, выпускнікі і студэнты вакальных аддзяленняў музычных школ.

Узрост удзельнікаў: 15 год і болей. Школьная моладзь можа прымаць удзел толькі ў адным конкурсе (для школьнікаў або для дарослых).

Кожны ўдзельнік або калектыў абавязаны выступіць з дзвюма песнямі на беларускай мове.

Агляд будзе праходзіць на трох ступенях:
— Мясцовы — у месяцы снежні 1973 года;
— у аддзелах — у студзені 1974 года;
— фінальны агляд — у лютым 1974 года.

Лаўрэаты агляду у аддзелах будуць выбраны на фінальны агляд камісіямі, створанымі праўленнямі аддзелаў БГКТ, у склад іх увойдзе таксама прадстаўнік Галоўнага праўлення БГКТ. Кольскасць удзельнікаў фінальнага агляду ад кожнага аддзела будзе залежаць ад узроўню выканаўцаў, а аб гэтым вырашыць камісія.

На ўсіх ступенях агляду будуць прымяняцца дзве катэгорыі ацэнкі: асобна для фальклорнай песні і асобна для сучаснай песні.

Журы будзе ацэньваць удзельнікаў паводле наступных крытэрыяў:

1. Голас — ад 1 да 10 пунктаў;
2. Інтэрпрэтацыя — ад 1 да 10 пунктаў;
3. Выбар рэпертуару — ад 1 да 10 пунктаў.

Лаўрэатам агляду у аддзелах журы прызнаюць узнагароды ад арганізатараў і суарганізатараў агляду.

### АГЛЯД БЕЛАРУСКІХ ТЭАТРАЛЬНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ

У аглядзе прымаюць удзел акцёры-самадзейнікі.

Узрост самадзейнікаў: 15 год і болей.

Кожны калектыў абавязаны выступіць з адной п'есай на беларускай мове.

Агляд будзе праходзіць на двух этапах:
— агляды ў аддзелах у месяцы лютым 1974 года;
— фінальны агляд — у сакавіку 1974 года.

Для правядзення элімінацый у аддзелах праўленні аддзелаў БГКТ створаць камісію, у склад якой увойдзе прадстаўнік Галоўнага праўлення БГКТ. Гэта камісія, пасля

(Працяг на стар. 4)

## АРГАНІЗАТАРСКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ВРН



Скончылася чарговая кадэнцыя рад нарадовых. Рада Дзяржавы вызначыла тэрмін выбараў на 9 снежня гэтага года. Выбарчая кампанія ў разгары.

Мінуўшая кадэнцыя рад нарадовых характарызавалася ўзростам рангу і аўтарытэту рад як прадстаўніцкага органу, умацавалася роля ў кіраванні гаспадарчай, грамадскай і культурнай дзейнасцю.

Беластоцкая Ваяводская рада нарадовая, як і рады ніжэйшай ступені, супрацоўнічаючы з камітэтамі Фронту адзінства народу, прафсаюзамі і грамадскімі арганізацыямі, выпрацавалі шэраг форм сувязі з насельніцтвам, якія запэўнілі шырокаму колу грамадзян удзел у кіраванні нашай зямлёй. Гарадскія і гмінныя рады перадалі шэраг спраў, якія непасрэдна датычаць гарадоў і вёсак, самакіраваннем жыхароў. Гэта дазволіла ім вырашыць многа спраў уласнымі сіламі. Свайго роду доказам гэтага могуць быць пашыраючыеся з году ў год грамадскія чыны. На працягу 1969—1973 гадоў іх вартасць ацэнена на 8 мільярдаў злотых. Аб вялікай дбаласці і самааданасці жыхароў вёсак і гарадоў сведчаць вынікі арганізаваных на Беласточчыне конкурсаў „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" і „Майстар гаспадарнасці".

У мінуўшай кадэнцыі наша Ваяводская рада нарадовая правяла 26 сесій, з якіх 4 былі ўрачыстымі, прысвечанымі гадавінам Адраджэння Польшчы. Дамінуючай праблематыкай сесій ВРН былі справы, звязаныя са справамі гаспадарчага плана, як асноўнага інструмента грамадска-гаспадарчай дзейнасці Рады, намячаючага асноўныя напрамкі развіцця ваяводства.

З гаспадарчых спраў, асобна разглядаемых на сесіях ВРН, найбольш месца прысвечана справам узросту і мадэрнізацыі сельскагаспадарчай і прамысловай прадукцыі. Гэтыя справы разглядаліся разам з сельскагаспадарчымі гурткамі, якія на беластоцкай вёсцы з'яўляюцца паважным стымулам ва ўвядзенні прагрэсу ў сельскай гаспадарцы і развіцці прадукцыйнай і грамадскай актыўнасці саміх гаспадароў. На 6 сесіях, прысвечаных справам сельскай гаспадаркі, былі прыняты: ваяводскі план забеспячэння сельскай гаспадаркі і вёсак вадой на 1971—1975 гады, праграма

(Працяг на стар. 4)



*Беластоцкія кантрасты.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 178

* * *

Колькі ж раз мы на зямлю ўпалі
і забыліся аб цэлым свеце
і блыталіся ў шчырасці
нібы пчолы ў вонным квецці
не саромімся і не баімся
выйсці крыкнуць
гляньце людзі
на зямлі мы шчасце распасцерлі
бо зямля яго не брудзіць

**Алесь Барскі**



## ІСНАВАННЕ

У сонечнае лістападдзе — клёны і бярозы ў ялінах, бы нявечнае ў вечным. Пабялелыя і пажаўцелыя старасці ў зелені. Як прыпамінанне. Таму першай парою года, якую прыдумаў чалавек, з'яўляецца восень.

Ці дзіця думае аб смерці?

Каб гусцей жыць — прыдумалі гадзіны і хвіліны. Бачу лічбы ў вачах спяшаючых на работу, у кіно, да знаёмых. Прыдумалі таксама вагу. І шмат чаго яшчэ, не гаворачы пра зялёна-шкляныя слепнякі на скрыжаваннях нашага стагоддзя.

Ці магчыма пераклічыць прыдуманае?

Але найлепш прыдуманы пачатак і канец. З перакананнем, што гэта можа мець значэнне ў бясконцасці.

Мо толькі з жаданнем быць патрэбным?

Хто зразумеў сваю непатрэбнасць — памірае. Аднак трэба сказаць, што патрэбнасць з'яўляецца такой жа выдумкай, як грошы або машыны, або бомбы. Прыдумваем дзеля існавання, штораз іншага. Але існаванню наплюваць на ўсё тое — і нават на тое, ці прыдумаем сэнс свету або параскідваем яго ў пылінкі атамаў. Што ні зробім, з'явіцца тым жа існаваннем, — як бацькі ў сне, зямлі ў людзях, а матэрыі ў зямлі, у электронах. У нічым. У бясконцасці.

Абмежаваным бандытам чалавецтва здаецца, што няма нічога такога, што б не было прыдатным пад сценку.

**Сакрат Яновіч**



## НОГІ

Па засмечаным панадворку, на якім асенняй раніцай не гулялі нават дзеці, скакала акрываўленая галка. Дзесяцігадовы хлопчык падкідаў яе ўверх.

— Ляці, ляці... — крычаў сіплым істэрычным голасам. Птушка штораз падала на пясок.

Мужчына, які ўбачыў гэтую сцэнку, з нястрыманай злосцю схапіў хлапчука за каўнер.

— Што ты зрабіў, нягоднік?! — затрос ім. Глядзелі на яго бліскучыя ад слёз ці хваробы вочы спалоханага дзіцяці. Ногі — абрэзаў ногі — у руках кравецкія ножніцы.

Бацька твой дзе? Вядзі! — крычаў незнаёмы. Амаль нёс яго ў паветры, калі ўздымаліся па сходах.

— Ваш сын? — выкінуў з сябе. — Ён вось гэтым акалечыў птушынку. На ложак упалі цяжкія кравецкія ножніцы.

— Ён абрэзаў ногі — нявіннай, хворай птушцы ён абрэзаў ногі, — голас незнаёмага дрыжаў ад хвалявання.

Малады яшчэ чалавек са змучаным тварам паднаў вочы з-над газеты. Настала цішыня, у якой хлапчук яшчэ болей скуліўся ў дзвярах.

— Ну і што, — пасівелы чалавек працягнуў руку з балюча расчаперанымі пальцамі. Ён глядзеў незнаёмаму ў вочы і твар яго выкрывіўся ў нейкай грымасе.

— Ну і што ж, — трос рукою, — ці абрэзаў ён ногі... чалавеку?! Паглядзеў на сына. Закрыў раптам твар рукамі, а з ног яго ссунуўся плед. Незнаёмы схіліўся, каб падняць, але раптам замёр. Чалавек быў без абедзвюх ног.

Калі збягаў уніз, кроў пульсавала ў вушах і ў вачах стала неяк цёмна.

На засмечаным панадворку па-ранейшаму нікога не было і не было ўжо акалечанай галкі.

**Кастусь Бандарук**



## ТВАРЭЦ

Над цьмянымі флюідамі дабра разбіў ружовыя палаткі сукупнасці і, апусціўшы шчыльныя шторы рэўнасці, думаў, што стварыў харомы пладавітасці.

А гэта былі келлі еўнухаў.

**Юрка Зубрыцкі**

* * *

Ішла яна
каля крывых радкоў
аднолькавых лавак
ішла яна
з апушчанай галавой
і села на сваё месца
Пасля зноў ішла
з торбай
перавешанай цераз плячо
крокі
няроўна стаўляла
на тратуары
І было ёй усё роўна
Драпежна стаялі дрэвы
выставіўшы сухія галіны
як рукі нядобрых людзей
Так многа іх
што хочуць чужой крыўды
што чакаюць чужога няшчасця

**Ірэна Баравік**



## ПАМЫЛКІ

Калі б не было памылкі,
Я не купіў бы сляпой кабылкі.
Не адмарозіў бы я вуха,
Каб роднай жоначкі паслухаў,

І з кумам бы не пасварыўся,
Калі б гарэлкі не напіўся,
У клуні не было б так пуста,
Каб не пасеялась загуста...

Калі б у свой час не памыліўся,
Дагэтуль я б не ажаніўся.
Яна ж таксама звар'яцела —
Мяне за мужа захацела!..

Дарма змачыў сухое сена,
Дарма набіў сабе калена.
Не багацею, а марнею...
А можа жыць я не ўмею?

І так памылка за памылкай.
І езджу я сляпой кабылкай...
Напэўна я таму радзіўся,
Што хтось калісьці памыліўся...

**Ул. Шклярук**

## У СУБОТНІ ВЕЧАР з маёй дзяўчынай

*Пятру Барчаку*

з маёй дзяўчынай спатыкаюсь
толькі ў суботу
бадзяемся разам па горах
збіваем смехам звёзды
гладзім пальцамі асеннія лісце
масты на каторыя ўзлазім
на каленях ліжуць голыя скалы
жылістыя рукі
складзены як да малітвы
абяцаем
але не ў змярканне
і не ў суботні вечар
тады будуць толькі
сланечнікі
са зламанымі рукамі

змярканне мхом ахінула шчокі
усмешка бабіным летам
блукаецца па вуснах
адчуваем
як дрыжыць пад ступнямі
злоўленая ў павуціну
кропелька расы
спыняе нас цішыня
чуем
як луг у імглу апускае валасы
заўсёды маўчым

**Зося Сачко**

## ВЕЦЕР

Плача вецер акалелы,
Вые дзіка ў каліне,
Абляцеў ужо свет цэлы,
Хаты не знайшоў нідзе.

Ды ў сялянскую хаціну,
Як да брата родны брат,
Ён заходзіць на хвіліну:
— Здароў, кум!
— Здароў, мой сват!

І па чарцы, па сяброўскай,
За жыццё, за белы свет
Выпіваюць, каб жылося
Лепей і табе і мне.

Падпіў вецер... у дарогу
Сабірацца ўжо пара.
Свіснуў дзіка, дзьмухнуў строга,
З радасці зарагатаў.

**Ул. Гайдук**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЗІНА

Яна яшчэ не навучылася хадзіць, калі прыйшла вайна. Хмарамі самалёты ляцелі на ўсход. Потым было многа дыму, гуку... Зіна нічога не помніць, толькі тое, што з бацькамі ўцякла ў лес. Свісталі кулі, з дрэў падалі кавалкі кары. За імі было чырвона-чырвона...

У зямлянцы маці ляжаў партызан. Так казала маці. З нагі капала чырвоная кроў, чорныя валасы пазляпляліся потам, чорныя вочы глядзелі так, як бы хто ўбіваў у іх іголкі. Мужчына стагнаў з болю, стагнаў цяжка... Дзяўчынка спалохалася і заплакала...

Салдаты танцавалі „рускага", спявалі, курылі папяросы. Зіна заглядала ў дзірачку, а потым пачынала і сама танцаваць. Танцавала, скакала, у галаве круцілася...

Рабілася цёмна-цёмна, на небе зор, як маку, а далёка за лесам распаўзалася пунсовае зарыва пажару. І больш нічога...

Ачуняла, калі ўсё аджыло ад вайны. Было ёй год шэсць. Палавіну дзяцінства ўкрала вайна.

**Міра Лукша**
Гайнаўскі беларускі ліцэй




## АДКАЗ НІНЕ МАТЫСЮК

„Ніву" я здаўна чытаю,
Кожны нумар. Дзве я „Нівы" маю:
Рана ў пятніцу купляю,
А ў суботу ў школе атрымаю.
Добра знаю я паэтаў,
Што ў „Ніву" пішуць не раз першы,
Не звычайна, як суседзяў,
А па словах, строфах вершаў.
„Ніве" час я прысвячаю
І таму мала гуляю,
А Ніна Матысюк мяне карае,
Што я „Нівы" не чытаю.
Ты гаворыш, біялогаў,
матэматыкаў ў вас многа.
У нас таксама іх нямала —
У алімпіядах не бракавала.
Трэба быць усебаковым —
І спартсменам, і вучоным,
І вясёлым, і паэтам!
І кажу у вершы гэтым:
Маладыя, прабудзіцесь,
За пяро рукой вазьміцесь,
Да матэматыкі ў цябе талент?
Дык паспрабуй яшчэ, ці ты паэт?
Ці можаш вершы ты пісаць,
Вучыць урокі і гуляць?
Ты мне адказ уміг знайшла,
Дык можа знойдзецца шчэ хто —
Напіша ў „Ніву" верш, пісьмо?
Да пабачэння!
Далёка, не пацiснеш рук —
Удзячны Вам:

**Яўгень Семянюк**
Бельскі беларускі ліцэй
імя Б. Тарашкевіча

## Наракаюць

Жыхары вёскі Тапаркі, Гайнаўскага павету, наракаюць, што ГС Кляшчэлі дастаўляе вельмі мала прадуктаў у іхнюю краму, менавіта каўбасы, сала, мясных кансерваў і інш. У суседнюю вёску Сакі (паўкіламетра ад Тапаркоў) дастаўляецца тым жа ГС-ам усё неабходнае.

— Блізка ж, дык чаму да нас не падкінуць, адна дарога, — кажуць жыхары вёскі Тапаркі.

І сапраўды, дзіўна, чаму такая розніца.

**М. Панфілюк**

## Мала зямлі, а вялікі гаспадар

У вёсцы Давідавічы, пошта Рыбалы, а павет Беластоцкі, жыве гаспадар — грам. Уладзімір Антанюк, сын Міхала. Яму 61 год. Гаспадарку мае каля 5 гектараў ворнай зямлі V і VI класаў. Сваё поле апрацоўвае ўдваіх з жонкай Ленай. Хоць слабая зямля і нямнога яе, Ул. Антанюк ужо ў гэтым годзе прадаў на пункце скупкі 18 кормнікаў вагой па 120 кг кожны і адну свінаматку — 360 кг.

Адначасова прадаў ужо дзяржаве надвышку жыта — 1.300 кг, а плануе яшчэ прадаць 1 тону.

Ён жа дастаўляе і малако ў злеўню ў Давідавічах.

Грам. Антанюк кажа: „Праца на гаспадарцы аплачваецца. Можна атрымаць тут добрыя вынікі, але трэба ўмець гаспадарыць і, ясна, не шкадаваць сваёй працы ля зямлі. Не гультайнічаць, а, закасаўшы рукавы, вельмі салідна працаваць. Толькі той не збярэ добрых плёнаў, хто не хоча працаваць на полі, або ўвогуле лянівы да працы".

Уладзімір Антанюк — гэта прыклад чалавека і гаспадара, які заслугоўвае на пашану і пахвалу і каб толькі як найбольш было такіх!

**Уладзімір Гуралеўскі**




**Дарагое „Сэрцайка!"**

Мне 22 гады. З Міркам хадзіла я чатыры гады. Часта ён гаварыў, што калі я закончу школу і пачну працаваць, мы пажэнімся. Але калі я пачала працаваць, Мірэк быў ужо ў войску. Тады я пазнаёмілася з Віцем і неўзабаве выйшла за яго замуж. Мой муж вельмі многа п'е і я з ім нешчаслівая. Я надалей моцна кахаю Мірка і цяпер бачу, як дрэнна я зрабіла, выходзячы замуж за Віцю. Мірэк мяне шчыра кахаў і надалей кахае. Ён з войска прысылае мне пісьмы. Мірэк хоча вырваць мяне з няшчасця і ажаніцца са мною. Але мне здаецца, што я не маю права выйсці за яго, бадай усё жыццё памятала б аб сваім нетактоўным учынку. Парай мне, „Сэрцайка", што зрабіць, каб усё было добра. Я буду табе за гэта вельмі ўдзячна.

**Марыся з Гайнаўшчыны**

**Марыся!** Памыліцца ў жыцці лёгка, але направіць памылку намнога цяжэй, а часам і ўвогуле немагчыма. Зразумела, што паступіла ты нетактоўна і неразумна, пакідаючы каханага хлопца і выходзячы за іншага. Здараецца гэта маладым дзяўчатам, пераважна, калі іх каханыя хлопцы недзе далёка і няма магчымасці часта бачыцца. Падвернецца нейкі іншы, і выходзіць дзяўчына замуж, часта толькі таму, каб хутчэй замужам быць, бо сяброўка ўжо выйшла, або па нейкай іншай прычыне. А такі непрадуманы крок можа ёй змарнаваць усё жыццё. Твая сітуацыя настолькі добрая, што Мірэк надалей цябе кахае і хоча з табой ажаніцца, як сама пішаш, хоча вырваць цябе з няшчасця. І няпраўда, што ты ўжо не маеш права за яго выйсці. Галоўнае — ты зразумела сваю віну, а Мірэк табе прабачыў. Памойму, гэтага ўжо дастаткова, каб распачаць жыццё нанава.

Дык жадаю табе шчасця ў новым жыцці!

**„Сэрцайка"**

## Гурток БГКТ у Збучы

У апошні дзень верасня ў Збучы сабраліся члены БГКТ. На сходзе было выбрана новае кіраўніцтва гуртка:

Канстанцін Ваўрэшук — старшыня
Кузьма Сапяжынскі — сакратар
Зоя Саенка — касір
Васіль Ваўрэшук — член
Юрый Касько — член

Новае кіраўніцтва абмеркавала ранейшую дзейнасць гуртка, а таксама апрацавала разам з удзельнікамі сходу новы план дзейнасці.

Гурток хоча стварыць вакальны калектыў, у рэпертуары якога былі б старыя беларускія песні.

**Аляксеюк**

## У міхалоўскім дзетсадзе

Прыемна гуляюць дзеці ў міхалоўскім дзетсадзе (Беластоцкі павет). Пад клапатлівай апекай знаходзіцца ў ім штодзённа 50 малышоў. Тут ёсць два аддзелы: дзяцей меншых і старэйшых. Заняткі з малодшай групай вядуць выхавацельніцы Марыя Росяк і Генавефа Радзё.

У старэйшай групе выхавацельніцы Луцыя Крэпская і Ванда Асіповіч часта вядуць гутаркі аб правілах вулічнага руху. Раз у месяц дзеці ходзяць у школу на заняткі першакласнікаў. Часта ходзяць на экскурсіі. Кіраўніком дзетсада з'яўляецца Марыя Росяк.

Трэба сказаць, што выхавацельніцы Генавефа Радзё і Ванда Асіповіч працуюць з дзецьмі ўжо 25 год. Міхалоўскія дзеці весела і цікава праводзяць час у дзетсадзе.

**Павел Гутнік**
Агульнаадукацыйны ліцэй
у Міхалове

## Гарадоцкія трыкатажніцы

Гарадок, трэба сказаць, мясціна цікавая. Цікавая ўсебакова. Хопіць прайсціся па чысценькіх вуліцах, пагутарыць з людзьмі, асабліва старэйшымі. І ні ў якім выпадку нельга абмінуць тутэйшага трыкатажнага камбіната „Кора".

Звыш пяцісот жанчын уключае штодзень трыкатажныя машыны. З маланкавым поспехам снуюцца мільёны метраў нітак.

Штука за штукай ідуць у пакоўню гатовыя вырабы. Яшчэ крыху, і гэтакіх чарадзеек сучаснага вераціяна будзе прыступаць да працы звыш 1000 асоб. 30 мільёнаў інвестыцыйных залатовак кінулі ўлады ў гарадоцкую, пятага класа, зямлю. Шчодра паліваная потам рабочых (зласлівыя кажуць, што півам), яна ўжо пачынае цвісці карпусамі новых цэхаў.

А гэта толькі кветачкі. Ягадкі таксама будуць. Да трох існуючых камунальных дамоў далучацца яшчэ некалькі. Будзе і дзетсад, будуць і яслі. Усё будзе. Каб толькі далей жвава круціліся гарадоцкія „шпулькі".

**Ларс**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

● У Кляшчэлях, у Пятра Сасноўскага, згарэла клуня са збожжам і хлеў. Страты на 180.000 зл.

● У вёсцы Высокае Паселе ў Высокамазавецкім павеце дзеці зацерушылі агонь у саломе і згарэла клуня са збожжам. Калі пажар пагасілі, у папялішчы знайшлі спаленае цела 4-гадовага хлопца.

● У вёсцы Райск згарэла клуня Мікалая Чарвінскага. Страты — на 90.000 зл.

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**Пытанне:** Бацька і мачыха жылі ў дзяржаўным доме. Сын жыў асобна. Бацька памёр. Ці сын мае права да памяшкання, якое займаў бацька?

**Адказ:** Да арэнды памяшкання не адносяцца правілы, якія рэгулююць спадчынныя справы. Пасля смерці наймальніка памяшкання ў адносіны найму ўступаюць толькі асобы, блізкія наймальніку, якія аж да моманту яго смерці займалі разам з ім кватэру. Калі б гэткіх асоб не было, умова найму выгасае ў выпадку, які адносіцца да пытання. У памяшканні разам з бацькам жыла толькі мачыха і яна ўступіла ў адносіны найму. Сын, які не жыў пры бацьку, ніякіх праў да памяшкання не мае.

*ПАШТОЎКА З БЕЛАСТОКА*



*На аўтобусным вакзале.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Człowiek z fantazją" (radz.), 6—7. „Ludzie i bestie" cz. I (radz.), 8—9. „Ludzie i bestie" (radz.), cz. II, 10—11.

**Кляшчэлі**
„Czerwony namiot" (radz.), 6—7. „Ulica Nadmorska" (radz.), 8—9. „W ciszy stepowej" (radz.), 10—11.

**Нараўка**
„Iwan Groźny" (radz.), cz. I i II. 7—11.

**Нарва**
„Staroświecki dramat" (radz.), 7—11.

**Чыжы**
„Haszek i jego Szwejk" (radz.), „Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**
„Tajemniczy mnich" (radz), „Szósty lipca" (radz.), 7—11.

**Арэшкава**
„Siedem nianiek" (radz.), „Wiryneja" (radz.), 7—11.

**Чаромуха**
„Delegat Hasty" (radz.), 6—7. „Aleksander Newski" (radz.), 10—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Dwója z wychowania" (radz.), „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 7—11.

**Райск**
„Chewsburska Ballada" (radz.), „Cierpkie wino" (radz.), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Oficerowie" (radz.). 10—11.

**Міхалова**
„Max i ferajna" (franc.), 6—7. „Strzał we mgle" (radz.), 8—9. „Gdy drzewa były duże" (radz.), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Dziki pies Dingo" (radz.), „Droga przez cmentarz" (radz.), 7—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Telegram" (radz.), 6—7. „Co wieczór o 11-ej" (radz.), 8—9. „Gracz" (radz.), 10—11.

**Мілейчыцы**
„Białe słońce pustyni" (radz.), 6—7. „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 8—9. „Ciepło twoich rąk" (radz.), 10—11.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji [illegible]-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.577 K-3

## нуты я ведаў, што гэты тэрмін нерэальны.

нуты я ведаў, што гэты тэрмін нерэальны. Яны перастараліся. Я не мог сабе дазволіць патраціць без усялякай карысці так шмат гадоў у камеры.

— Адкуль жа ўзнікла такая значная колькасць гадоў прыгавору?

— О, не здзіўляйцеся! Англійская Феміда ўмудрылася налічыць спачатку нават больш. І толькі без усялякага роду калькуляцый на юрыдычнай кухні, яна спынілася на сарака двух. Дарэчы, гэта самы высокі тэрмін пакарання, што калі-небудзь выносіўся ў Англіі...

— Але ж для такога прыгавору неабходны такія ж важныя падставы?!

Блейк смяецца:

— На гэта пытанне я адкажу словамі галоўнага суддзі Англіі лорда Паркера: „Блейк практычна звёў на нішто большасць намаганняў англійскага ўрада за апошні час".

Якія такія „намаганні" меў на ўвазе галоўны суддзя? Аб чым ён не адважыўся сказаць услых, не адважыўся назваць усё гэта сваімі імёнамі? Мы мяркуем, што далейшая гутарка з Блейкам дапаможа чытачу ўявіць сутнасць гэтых „намаганняў англійскага ўрада", а пакуль папросім савецкага разведчыка расказаць аб ранніх гадах свайго жыцця.

**(Працяг будзе)**

